Opłata pocztowa opłacona ryczałtem. Цана асобнага нумару 25 грошай.

№ 11. Вільня, 15 траўня 1927 году. Год I.

# БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ



| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: | Падпісная цана: | Цана абвестак: |
|---|---|---|
| Wilno (Вільня), Ціхая вул. 4, (альбо Міцкевіча 15) кв. 20. Тэлефон № 1207 | На 1 месяц—1 зл., на 3 месяцы—3 зл., на паўгода — 5 зл. і на год — 9 зл. Заграніцу ўдвая даражэй. | За цэлую апошнюю старонку—120 зл., за $^1/_2$—65, за $^1/_4$—35, за $^1/_8$—20 зл. За мілімэтравы радок перад тэкстам 25 гр., у тэксьце 30 гр. і за тэкстам 10 гр. |

## Маёвы пераварот.

Гісторыя ня ведае больш драматычнае эпохі, ніж наша сучаснасьць. Здаецца, ня было яшчэ больш багатага гістарычнымі падзеямі дзесяцьгодзьдзя, як апошняе паваеннае дзесяцьгодзьдзе. Усьлед за крахам імпэрыяў Эўропы, пачынаецца ўпартае шуканьне шляхоў адраджэньня і вызваленьня чалавецтва з таго маразму, ў якім апынуліся народы Эўропы перад вайной і падчас вайны.

На сцэну гісторыі выступаюць новыя сілы, новыя людзі, сымболічныя насіцелі пэўных соцыяльных і нацыянальных ідэяў.

Нейкім крывавым мэтэорам праносіцца над Усходам Эўропы Ленін і ленінізм. На Захадзе Эўропы вырастаець постаць Мусоліні і творыцца ідэя фашызму. Змучаныя, выкалееныя вайною грамады людзей з роспаччу, кідаюцца ў абоймы дыктатуры і крышаць направа і налева ўсё тое, што стаіць на дарозе іх фанатызму. Але фанатызм — дрэннае лякарства ад гістарычных хваробаў і ланцуг векавых соцыяльных і нацыянальных несправядлівасьцяў аказваецца ня так то лёгка разрубаць ударамі аднаго меча. І вось праз 8 гадоў пасьля бальшавіцкага перавароту і праз амаль чатыры гады пасьля фашыстоўскага перавароту адбываецца роўна год таму назад пераварот у Варшаве, пераварот, духоўным правадыром якога зьяўляецца маршалак Язэп Пілсудскі. У руках творцоў маёвага перавароту былі, такім чынам, ня толькі багатыя традыцыі польскага вызваленчага руху, але і багатае дасьведчаньне мінулага дзесяцьгодзьдзя, якое гарантавала магчымасьць ухіліцца ад фатальных памылак. У гэтым вялікі плюс маёвага перавароту, які не сступіў на згубны шлях дэспотыі і дыктатуры, хоць і мог-бы лёгка гэта зрабіць, а стаў шукаць новых формаў для сужыцьця соцыяльных і нацыянальных групаў польскае дзяржавы.

Калі пра Леніна сягоньня можна ўжо сьмела сказаць, што яго ідэя ўсясьветнага пажару ў мінулым, калі фашызм перажываець глыбокі крызыс упадку і ідэйнага банкруцтва, то пра ідэі маёвага перавароту сягоньня, праз год пасьля аружнае барацьбы на вуліцах Варшавы, можна сказаць толькі, што яны ўсе ў будучыні.

Ленін і Мусоліні тыповыя дыктатары і дэспоты, тыповыя гвалтоўныя імпэрыялістыя. У гэтым іх часовая сіла, ў гэтым іх і слабасьць для будучыны. Я. Пілсудскі не дыктатар і не дэспот. Постаць легендарнага маршалка, які сілаю духу і меча стварыў незалежную Польшчу, а потым адыходзіць у бок ад кіраўніцтва дзяржаваю — гэта ня постаць фанатыка ўладалюбца. Больш трох гадоў сядзіць маршалак Пілсудскі у нейкім палітычным кляштары, ў сваім Сулеюўку, адкуль

прыглядаецца да дзяржаўнага жыцьця, да тых польскіх урадаў і да тае „сыстэмы“ палітыканства і спэкуляцыі, да таго зладзейства, маразму, бясправўя і тупалобія, да ўсіх тых перажыткаў векавое няволі, якія вылезьлі на паверх народнага арганізму, як пузыры і гной.

Прыслухоўваецца легендарны маршалак і да таго глухога шуму народных масаў, да таго здаровага народнага протэсту, які нарастаў у сэрцы народаў Польшчы.



Маршалак Пілсудскі.

І вось 12 мая 1926 году зноў выступаець Я. Пілсудскі з вострым мячом у абарону незалежнасьці і адраджэньня, выступаець на чале народнае польскае арміі і народных масаў. Ідзе бязьлітасная трохднёвая расправа з тымі, хто палітыкаваў і спэкуляваў сьвятымі ідэаламі вякамі паняволенага народу.

Цэлы год аддзяляець нас сягоньня ад гэтае даты, якая будзець занесена ў гісторыю Польшчы, як пачатак новае эпохі ў жыцьці польскага народу і польскага руху. Цэлы год ужо стаіць маршалак Пілсудскі каля руля Польскае дзяржавы, асьцярожна пакіроўваючы яе на той шлях, аб якім ён мроіў у падпольлі, ў турме расейскай і нямецкай, на палёх бітваў і ў Сулеюўку, але і сягоньня яшчэ маёвы пераварот і яго мэты зьяўляюцца шмат для каго таямніцай, а яго духоўны правадыр тым неразгаданым сфінксам, наваколь якога ходзіць шмат розных плётак і недарэчнасьцяў...

Праўда, маёвы пераварот не ахапіў яшчэ ўсіх глыбіняў палітычнага, эканамічнага, соцыяльнага і нацыянальнага жыцьця, рэальныя дасягненьні яго за год яшчэ невялікія, але вялікае значэньне і сіла маёвага перавароту ў тым, што ён абудзіў Польшчу, якая сягоньня глыбока задумалася над сваім лёсам і кіпіць, як кацёл, новымі думкамі, імкненьнямі, а ў глыбінях народных, у нетрах грамадзянства насьпяваюць павольныя творчыя зьдзьвігі, якія мусяць выявіцца з няўхільнасьцю жалезнага закону бурным патокам адраджэньня.

Для нас, для беларусаў, так сама, як і для украінцаў, маёвы пераварот ня прынёс яшчэ значных рэальных дасягненьняў. Але нам здаецца, што маёвы пераварот мусіць выйсьці і выйдзе за польскія нацыянальныя межы, бо стабілізацыя польскага нацыянальнага руху няўхільна адаб'ецца і на стабілізацыі руху украінскага і беларускага.

Больш таго, калі тварцом і ідэолёгам маёвага перавароту ўдасца паглыбіць гэную ідэю і залажыць моцны грунт для братэрскага сужыцьця Польшчы, Беларусі і Украіны, дык значэньне маёвага перавароту далёка выйдзе па-за межы польскае гісторыі і стане фактам агульна-чалавечае гісторыі, стане тым фундамэнтам, на якім у будучыні вырасьце фэдэрацыя народаў Усходняе Эўропы.

Задачаю сягоньняшняга дня, задачаю ўсіх здаровых сілаў польскага, беларускага і украінскага грамадзянства—спрыяць ажыцьцяўленьню ідэяў маёвага перавароту. І калі толькі адну гэтую проблему, проблему сужыцьця народаў на падставах іх незалежнасьці і братэрства, ўдасца вырашыць, заслугі тварцоў маёвага перавароту перад чалавецтвам будуць аграмадныя. Верым, што так будзе, бо так павінна быць, бо народныя масы ўжо дарастаюць, да гэтае вялікае ідэі.

## СЬМЕХ і ЖАРТЫ.

Прыехаў нейкі пан у вёску і хацеў заехаць да селяніна на падворак.

Седзячы на возе, кажа хлопчыку, каторы стаяў пры варотах:

— Хлопчык, адчыні вароты!

А хлопчык пытаецца:

— А хто ты?

— Я прафэсар.

— А што гэта знача прафэсар?

— Прафэсар — гэта той, што ўсё ведае.

— Усё ведае? — зьдзівіўся хлопчык, — а чаму-ж ён ня ведае, як вароты адчыніць?!

# Майму сінэдрыёну.

Я знаю сам свои пороки,
Не нужны мне, поверь, уроки
Твоей учености сухой...

А. Пушкін.

Ой, дзеячы! ой, галубочкі!
Багаты-ж вамі родны край.
Вы спрытна верыце, браточкі:
Той—у Кастрычнік, гэты—ў Май.
У мне ўжо добрага нічога
Гатоў ня бачыць дзе-хто з вас,
Альбо вось гэтулькі благога,
Што й не падлічыце зараз.
Вучоны з доўбняю на плечах,
Заместа людзкай галавы,
Мне даць рыхтуецца па нечым
І грозіць гіканьнем савы.
Цыган з шулерскае газэты
Пляце, што хоча, так і сяк;
І ён прэ ў нашыя поэты,
Хоць безнадзейна, — небарак.
А колькі бабскага пляткарства
Прайшло... прайдзе... нашто лічыць?
Сабе шукайце вы лякарства,
Сябе сьпяшайцеся лячыць.
Народнай справы вы факіры,
Пустой палітыкі майстры!
Вам не разьбіць чароўнай ліры.
Душы ня выняць без пары!
Пакіньце мне спакой бяз славы,
Яе ад вас я не хачу —
Пішу сабе дзеля забавы,
За плёткі жартам заплачу.
Бо тым душа мая й багата,
Што ў сэрцы ёсьць шчасьлівы лёс:
Дзень Дабравешчаньня—мне сьвята,
Народ Расьпяты — мой Хрыстос!

*Краўцоў Макар.*

# У сваю старонку.

Ў сваю старонку родную,
У Беларусь Заходнюю
Я рваўся ўсей душой.

Сады дзе зелянеюцца,
Кляны, дубы віднеюцца,
Дзе кут радзімы мой.

Палёў прасторы роўныя,
Лясоў маіх цудоўныя
Мясьціны - абразы.

Дзе воды рэчак чыстыя
Бягуць у даль срабрыстыя,
Між вольхаў ды лазы.

У ціху ноч разносяцца
І дзіўна ў душу просяцца,
Дзе сьпевы салаўя.

Якімі-кольвек чарамі
За ветрам, ці за хмарамі
Туды ляцеў-бы я.

*Міхась Васілёк.*

## Што такое прэса?

У амэрыканскай часопісі украінскі д-р Язэп Назарук зьмясьціў прыгожую стацьцю аб прэсе, якую мы перадрукоўваем з малым скарачэньнем і якую варта з увагай прачытаць кожнаму грамадзяніну:

— Прэса — гэта найвялікшая прапаведніца народу. Прэса — гэта найвышэйшы суд. Прэса — гэта найвялікшая вучыцелька народнае масы. Прэса мае вялізарны ўплыў на ўсё жыцьцё, на палітыку, на на-

# Успаміны з Пэрсіі.

*(Гл. № 10 „Б.Д.“).*

Пасьля прыезду ў Энзэлі камандзер роты ня даў мне доўга адпачываць і на трэці ўжо дзень я адтрымаў прыказ ехаць з эшалонам цяжкіх самаходаў у Хамадан, дзе мелася быць месца майго быцьця.

Прыказ гэны вельмі ўсьцешыў мяне, бо ўжо пасьля гэных трох дзён я меў Энзэлі па горла.

Машкара, камары, вільгаць і страшэнная цяплыня, змарылі мяне зусім і я быў рад чым скарэй вырвацца з гэнага пекла, ў якім, як нейкі прaкляты грэшнік у катле, варыўся я усьцяж у сваім поце. І вось, чакаючы, пакуль эшалон закончыць сваю нагрузку, мы з Карапэтам пачалі рыхтавацца ў новую для нас далёкую падарожу.

Ня менш за мяне цешыўся і мой Карапэтка.

— „Слава Богу, — казаў ён, зьбіраючы пажыткі,—тут мы з вамы, Ваша Б-дые, савсэм бы прапалы, развэ можна тут жыць? смотрытэ, что здэлалось з Вашым галыфэ, — казаў ён далей, здымаючы са сьцяны мой парадны мундзер,— смотрытэ: чэрэз нэсколко днэй на ніх-бы ужэ началы росты памідоры, — і кажучы гэта, ён сунуў мне пад нос маю вопратку, якая, вісючы ў кутку, ад вільгаці ўся пакрылася тоўстым налётам плесьні.

— Слава Богу, што едэм адсюда, в Хамадане совсэм іной клімат, там очэн харашо. Але ня верыў цяпер я Карапэту. Калісь, у Альтшванэнбургу сваімі казкамі аб тым, як добра ў Пэрсіі, замануў ён мяне ў гэнае паскуднае Энзэлі, а цяпер вось Хамадан выхваляе!

— Годзі табе хваліць,—сярдзіта буркнуў я на Карапэта.—Каб табе верыць, дык і у Энзэлі таксама павінна быць „очэнь харашо“. Дый скуль ты ведаеш, што ў Хамадане добра?

— Там суха, — спакарнеўшы неяк і засароміўшыся, ціхім голасам, адказаў мне Карапэт.

Праўда, там суха, я аб гэтым добра ведаў, а шак і тутака, каб ня гэная страшэнная вільгаць, так-

вуку, на мастацтва, на прамысловасьць, а што найважнейшае—на ўзгадаваньне будучых пакаленьняў, а тым самым на будучыну народу. Хто не разумее значэньня прэсы, той не разумее новых часоў, у каторых жывём. Што дае прэса? Які яе зьмест?

Ёсьць прэса добрая і благая. Добрая прэса прыносіць тое, што трэба ведаць народу, тое, што яго вучыць, падносіць і арганізуе да працы. Добрая прэса прыносіць весткі аб новых законах, аб розных цікаўных здарэньнях, аб новых падзеях і досьледах. У старадаўнай Грэцыі, дзе яшчэ ня было прэсы, грэкі абгаварвалі гэтыя справы штодня на рынку. Цяпер робіць гэта прэса. Яшчэ сто гадоў таму сказаў Напалеон Вялікі: „Ёсьць пяць вялікіх дзяржаваў, а прэса—шостая вялікая сіла“.

Але ёсьць і благая прэса. Зьмест няцобрай прэсы — гэта плёткі, ачэрніваньне, абмова і лаянка ды вечная крытыка, каторая кажа, што „ўсё дрэнна“, а не паказвае, што добрае, і як да таго дабра дайсьці. Благая прэса падобна да вялікае памыйнае ямы. Калі-б у яе ні заглянуць, то заўсягды знойдзеш у ёй адно і тое самае: учора і пазаўчора, год таму і два, і дзесяць — гразь, балота, мана, ненавісьць, а па-за тым — пустата.

Тварцом благое прэсы ўсё роўна, каго яны лаюць і ці ёсьць прычына чапляцца чагось, ці няма. Як ёсьць гэткія зьвяры, што ўсьцяж мусяць штосьці грызьць і кусаць, ці галодныя яны, ці не, — так сама ёсьць і гэткія „рэдактары“. Яны мусяць усьцяж штосьці крычаць і кагось лаяць. Як няма што, дык выдумаюць, каб было.

Адкуль бяруцца гэткія „рэдактары“? Вучыцель, каб вучыць дзяцей, мусіць скончыць нейкую школу і здаць нейкі экзамен. Таксама праўдзівы інжынер, лекар, дантысты, сьвяшчэньнік і г.д. А рэдактар—не.

Кожны можа быць рэдактарам, нават той, хто ні чытаць добра ні пісаць ня ўмее. І такі чалавек можа падпісваць газэту і друкаваць у ёй усё, што хоча: і аб моралі, і аб царкве, і аб дзяржаве, і аб соцыяльных справах, і аб народзе, і аб справядлівасьці, і аб палітыцы—аб усім. Рэч ясная, што каб напісаць нешта гэткае, што-б прынясло пажытак, трэба самому нешта ведаць.

А каб пісаць лаянкі, на тое нічога ня трэба ведаць. Усякі дурань умее лаяць і патрапіць гэта лепш, як хто іншы. Гэта для яго найлягчэйшая работа, бо ён інакшае ня ведае.

Гора таму народу, у каторым благая прэса мае перавагу над добрай. Бо думка такога беднага народу робіцца, пад уплывам гэткай прэсы, таксама памыйнаю ямай. Ён дзесяткамі гадоў дыхае паветрам гэтае ямы. Грызьня, лаянка ды ўзаемная ненавісьць убіраецца ў яго і ў усё жыцьцё: асабістае, хатняе, грамадзкае і арганізацыйнае.

Такі народ робіцца няздольным да ніякае арганізованае барацьбы. У ім гінуць ідэалы, а застаецца толькі ненавісьць і грызьня.

Ці можна звяваць благую прэсу? Можна. Але толькі адзіным спосабам: падтрымліваньнем добрае прэсы. Трэба добрую прэсу аплачваць, у сваіх арганізацыях жадаць для яе падтрыманьня, пісаць да яе і даваць ёй абвесткі. Нават адзін энэргічны й разумны чалавек, у якой-небудзь аколіцы можа вельмі падтрымаць добрую прэсу. А пры ўсім гэтым трэба памятаць вядомую прыказку культурных народаў: „Скажы мне, што ты чытаў, а я скажу табе, хто ты ёсьць і які з цябе чалавек“.

А па чым пазнаць, якая прэса добрая, а якая благая. Калі вы чытаеце якуюсь часопісь, тагды вы запытайце сябе: чаго яна мяне навучыла? Якія пы-

---

сама жыць было-б можна: ад яе, ад гэтае вільгаці і праклятыя камары, і машкара, і ўрэшце памідоры на галіфэ.

І калі праз некалькі гадзін, мой самаход мінаў апошнія дамкі Энзэлі і, выбраўшыся на шашу, нёс мяне ў далёкі Хамадан, я зноў верыў Карапэту і думаў, што там у Хамадане, закінутым у глыбі Пэрсіі, лежачым на шляху, які вядзе да Мэсапатаміі, ў якой, паводлуг лэгендаў быў біблійны рай, я пападу калі не ў краіну, дзе „о ч э н  х а р а ш о“, то прынамсі ў гэткую, дзе можна як-нібудзь жыць нашаму чалавеку.

Шлях да Хамадану, які знаходзіцца на адлежнасьці каля 450 кілёмэтраў ад Энзэлі, ідзе праз гарады Рэшт, Мэнджыль, Казьвін і Авэ. Да Рэшту і трошкі далей за Рэштам, да паштовай станцыі Імам-Задэ-Гашым шаша ідзе нізінай, прарэзваючы мора зелені. У іншых мясцох яна прабягае паміж балотцамі, зарослымі густым сітняком і нейкімі кустамі, ў іншых зноў, паміж абшараў сенажацяў, прыбраных купінкамі дрэваў, а найчасьцей паміж гародамі, садамі і плянтацыямі рыжу. Вёсак спатыкаецца мала на гэным шляху — яны ляжаць недзе далей ад шашы, акружаныя садамі, за зялёнай заслонай каторых іх амаль зусім ня відаць з шашы. Цікаўна выглядае новаму чалавеку гэны куток Пэрсіі. Я праяжджаў па ім няраз і заўсягды спатыкаў подчас падарожы нешта новае, нязнанае. Прыпамінаю сабе, адзін раз на гэнай шашы паміж Рэштам і Энзэлі, вясною я спаткаў цэлую масу вужоў; што дваццаць-трыццаць крокаў самаход мой набягаў на срэбна-сталёвае цела гада, а часам адразу некалькіх гадаў, ляжаўшых бяз руху поперак шашы і грэючых на сонцы свае цела, альбо хвалёвым павольным рухам перапаўзаўшых праз яе. Творы гэныя мелі даўжыні іншы раз каля паўтарадвох мэтраў і таўшчыня іх дасягала таўшчыні рукі чалавека. Я некалькі разоў затрымліваў самаход, каб прыглядзецца да гэных вялікапаў, калі расьціснутыя коламі самаходу яны корчыліся і білі сваім магутным целам па шашы Памятую, я і мой Карапэтка, як урэшце і ўсе жаўнеры, вельмі брыдзіліся іх, і нават пакалечаных, памятых коламі, трошкі баяліся. Здава-

таньні выясьніла? А дзе пабачыце лаянку, там ужо адразу пазнаеце, ці гэта добрая часопісь, ці не. Вялікая ёсьць адказнасьць тых, што устанаўляюць рэдактароў і маюць уладу над прэсаю. Бо прэса—гэта думка народу!

Добрую прэсу трэба складаць у гадавікі (усе нумары па парадку) і сшываць у сшыткі. Так робяць усе культурныя народы і арганізацыі. Бо ў добрай прэсе ёсьць вельмі шмат працы. Тады праца марна прападае, калі часопіс не сабрана ў адзін сшытак. Ужо праз некалькі год яе за ніякую цану сабраць ня можна, калі ня зложыце яе адразу. Ці вы гэта робіце? Ці можа таксама марнуеце часопісі добрае прэсы і тым самым ўзмацоўваеце ўплыў благое прэсы.

Падаў *П.*

# Корэспондэнцыі.

## Нам пішуць з вёскі:

Пры сойміку ў Баранавічах функцыянуе пазычковая каса, сябрамі каторай ёсьць у большасьці сяляне праваслаўнае веры. Дык каб гэтыя сябры не маглі правясьці ў урад касы свайго сялянскага прадстаўніка, выбары да ўраду па загаду нейкае асобы адбыліся на першы дзень Вялікадня па ст. стылю, г. ё. тады, калі праваслаўныя сьвяткуюць і ня маюць магчымасьці паехаць у горад.

Думаеце, хто гэту камбінацыю правёў? польскі эндэк? Не! Самы натуральны расеец старарэжымнага пакленту — Забелло.

Дык які ён сэнс меў у гэтым?

Ці-ж гэтак можна супрацоўнічаць?

*Б.*

## М-ка Жодзішкі Вялейскага пав.

Ёсьць у нашай вёсцы солтыс К-скі, які ўжо 4 гады як займае пасаду солтыса і ніяк яго ня можам пазбыцца, хоць выбіралі замест яго шмат іншых. Усіх іх не зацьвярдзіў староста, бо іх наш солтыс азваў дзе трэба, што яны то беларусы, то бальшавікі — то зладзеі, кожнага патрапіў ачарніць, толькі аб сабе забыўся.

Ен сам да вайны быў у Петраградзе, дзе жыў у свае сястры, яго яна жывіла, бо ён што калі меў, то зараз прапіў. Цяпер ён начальнік. Год таму запісаўся ён у брацтва трэзвасьці у ксяндза у Данюшаве, але піць не перастаў. Прапіўся да таго, што ня мае амаль нічога і высылаець свайго сына на вёску зьбіраць яйкі, сыр і г. д., за якія мае калісьці заплаціць.

Хто ня дасьць, таго лае бальшавіком, надта-ж ён ня любіць беларусаў, каторым грозіць турмой і іншымі „прыемнасьцямі“.

Ен кажа, што пастаўлены на тое каб сьлядзіць і не дапушчаць у сваім абводзе нікому быць беларусом. Кожнаму, хто запісаўся у Гурток Гаспадаркі і Культуры грозіць, арыштам.

Няшчасны чалавек! ён думае, што ўдасца яму перавярнуць людзей на свой капыл. Аб ім інакш не гавораць, як аб чалавеку страціўшым розум.

А ці мала у нас ёсьць такіх скрыўджаных Богам людзей, каторым даручаюць справы і вераць у іх даносы. Гэткая апека п'явіц і нясумленных людзей, гэта, выклікае незадаваленьне усяго нашага сялянства. Аб гэтым павінны задумацца. Бо той хто крычыць—хай жыве Польшча, а сам творыць Бог ведае што, ніякай карысьці нікому ня прыносіць.

*Тутэйшы.*

---

лася нам, што ў іх губах, якія яны раз за разам разявалі шырока, высоўваючы свае тонкія, доўгія быццам пучок нітак, языкі, хаваецца сьмерць. Адцяўшы галовы, я прывёз некалькі іх нашаму ротнаму доктару, які пасьля агляду прышоў да пракананьня, што гады гэныя зусім не ядавітыя. Доктар вельмі цікавіўся гэнай справай і кожны раз, той ці іншы афіцэр прывозіў яму з падарожы галаву гада і ніразу ён не знайшоў ядавітых гатункаў.

Іншы раз, помню, прыйшлося мне начаваць на станцыі Імам-Задэ-Гашым, паложанай яшчэ ў нізіне ля самага падножжа гораў, парослых густым лесам. Гэта было зімою. Неба завалаклі хмары, цёмна было, хоць калі ў вока, на душы неяк цяжка і маркотна. Закусіўшы трошкі, пры сьвятле нейкай паскуднай сьвечкі, я толькі лёг заснуць, калі здалёку ад гораў даляцеў да мяне нейкі жаласьлівы ціхі плач - выцьцё. І быццам на одгук сыгнальнага рогу—на плач гэны адгукнуліся з усіх бакоў тысячы жаласьлівых галасоў, зьліўшыся разам у адзін жудасны канцэрт. Гэта вылі шакалы — лясныя сабакі. Іх плач - выцьцё, то ўціхаў хвіліну, то зноў разьлягаўся з вялікшай яшчэ сілай і адначасна дзікая і жаласьлівая мэлёдыя яго нейкай тугой і жудасам запаўзала ў душу чалавека і быццам капцюрамі рвала яго нэрвы. Ніводнай хвіліны ня мог я заснуць у гэтую ноч і толькі пад раніцу, калі пачало шарэць, плач шакалаў паволі пачаў уціхаць, ажно заціх зусім. Шакалаў у Пэрсіі вы спаткаеце ўсюды, але ў гэным месцы ў аколіцы Імам-Задэ-Гашым іх вельмі шмат. Уночы, праяжджаючы на самаходзе, я нераз бачыў іх у водбліску пражэктара шмыргаючых па дарозе. Раз удалося мне застрэліць аднаго гэнага паскудніка. З выгляду ён зусім падобны да нашага сабакі, і велічыня яго такая самая, як нашай сярэдняй аўчаркі. Поўсьць яго шэрая, з рознымі адлівамі, якія зьмяняюцца залежна ад месца і каб ня гэны паскудны звычай яго сваім выцьцём наводзіць нуду на чалавека, і нейкая дзікасьць, дык шакала можна было-б прыняць зусім за нашага сабаку.

**Дзядзька Пранук.**

(*Працяг будзе*)

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Што, дзе і калі сеяць.

*(Гл. № 10 „Б. Д.“).*

Паасобны земляроб-практык ня можа займацца гадоўляю збожжа і вытвараньнем новых гатункаў, бо гэта вымагае спэцыяльнае веды і ўмеласьці, дык і мусіць даставаць яго ад спэцыялістых. З гатункаў аўса маем добрыя краёвыя гатункі, як рыхлік сабешынскі, сярэдня раньні, які мае пэрыяд росту ў 90 — 100 дзён, з тоўстым зернем і тонкаю лускою. Яшчэ больш раньнім ёсьць рыхлік немерчанскі, апрача гэтых ёсьць добрыя заграгічныя гатункі, найбольш вядомыя ў нас, як „Залаты Дождж“, „Пераможнік“, „Лігова“, што сьпеюць пазьней. Вельмі добра, калі гаспадар набудзе ў малых колькасьцях некалькі гатункаў і зробіць у сябе практыку, тады ня будзе набываць, што папала сьлепатою, а сам будзе ведаць, які гатунак найлепей удаецца на яго зямлі.

У авёс бывае ўсейвана сарадэля. Адны робяць гэта аднача сна з сяўбою аўса, другія — пасьля таго, як ён абойдзе. Трэба помніць, што сарадэля хоць і памалу абходзіцца, але затое пасьля абыходу шыбка разьвіваецца, а дзеля таго, што ўмее прысвойваць азот з паветра, дык у рэзультаце гэтага й іншыя складнікі, што знаходзяцца ў грунце, — фосфарныя і паташныя, — убірае энэргічней за авёс. Гэты закон — агульна вядомы, як закон мінімум, г. знач., што ўраджай залежыць ад таго складніка, якога ёсьць найменш. Калі пабольшае колькасьць гэтага складніка, дык павялічыцца і ўраджай. Тады можа аказацца, што ў рэзультаце гэтага іншы складнік будзе ў наймецшай колькасьці ў параўнаньні з рэштаю іншых. У гэткім выпадку трэ' было-б павялічыць колькасьць гэтага складніка і г. д., аж пакуль усіх пажыўных і іншых складнікоў, як сьвятло, вільгаць і г. д., ня будзе ў гэткай колькасьці, каб расьліна магла даць найбольшы ўраджай. З гэтым ёсьць так сама, як і з чалавекам, які мае мала сланіны, а яшчэ менш хлеба, тады можа зьесьць гэтулькі сланіны, колькі і хлеба, а пасьля, як дастане болей хлеба, дык можа не хапіць сланіны і г. д., аж пакуль не пад'есьць, а як пад'есьць, дык можа не хапіць вады і тады ізноў пакутуе. Растучы побач, розныя расьліны маюць альбо розныя вымаганьні, альбо адныя й тыя самыя. Калі маюць тыя самыя вымаганьні, тады кожная з іх стараецца ашукаць сваю суседку, паўстае барацьба за істнаваньне, ў якой здужвае тая, што вымагае найменш, або найлепш датарнована да даных варункаў.

Гэткая барацьба паўстае паміж разам высеянымі аўсом і сарадэляю. Высеяная разам з аўсом сарадэля, паколькі будзе мець адпаведныя для сябе варункі, пасьля можа скрыўдзіць авёс, бо маючы здольнасьць убіраньня азоту з паветра пры помачы бактэрыяў, якія ёсьць у грунце і твораць бародаўкі на каранёх сарадэлі, лягчэй за авёс, які гэтае здольнасьці ня мае, можа ўбіраць і іншыя складнікі, а знач. фосфар і паташ. Праз гэта авёс можа даць горшы ўраджай, а лепшы ўраджай сарадэлі можа не пакрыць тае страты, што будзем мець на аўсе. Нарэшце-ж, сара-

---

# Літэратурныя нататкі.

## Пад савецкаю маскаю.

Як ні накладай на сябе вясёлую міну-маску, але калі на сэрцы цяжка, дык не засьпяваеш радасным вершам. Так і з маладымі беларускімі поэтамі на Ўсходзе. Усе яны сядзяць альбо ў „Маладняку“, альбо ў „Узвышшы“ і змушаны сьпяваць гымны савецкім камісарам і пісаць оды на заказ у розныя савецкія сьвяты. У гэтай „поэзіі“ яны радуюцца, сьмяюцца, бо інакай ня могуць, бо іх змушаюць сьмяяцца. Але, калі даходзіць да чыстае лірыкі, да настрояў, да тых глыбіняў пачуцьця, якія хочацца схаваць ад чужога, варожага вока, то тут маладыя савецкія беларускія поэты стараюцца быць сымболістымі і хоць-бы праз вобразы выказаць той смутак, той беларускі боль душы, які ахапляець маладое сэрца поэта.

Вось перад намі некалькі вершаў М. Хведаровіча, вершаў без палітыкі, вершаў чыстага мастацтва. І ў іх мы бачым пад савецкаю маскаю глыбокі смутак і боль, глыбокую незадаволенасьць духу.

„Не гадаў, ня думаў — белы сьнег мяце,
„Думаў, ліпа белая пад вакном цьвіце.
„Вышаў на прасторы — сьнежны лёг дыван,
„Засьцілае вочы шэраньню туман.

Так сьпявае малады поэт Хведаровіч у сваім вершы „Песьня“. Думаў, што савецкая ўлада і харошыя словы агітатараў пераробяць наш край у нейкі сад ліпаў, у нейкі рай. Можа верыў камуністым, запісаўся ў „комсомол“, у „Маладняк“ і іншыя арганізацыі, сядзеў там, прыглядаўся да жыцьця, да новага жыцьця, і што-ж пабачыў? замест ліпаў — „сьнежны лёг дыван“, а вочы засьцілаець „шэраньню туман“—самы звычайны савецкі туман.

„А ў тумане шэрым чуцен чыйсьці сьмех,
„Шабуршыць і падае белы пульхны сьнег.
„Шабуршыць і падае ў сэрца болью вострай,
„Плачуць на пагурку тры шышшыны сёстры.

Так. Плачуць сосны, беларускія сосны. Хоча плакаць з імі разам і поэт. Але ня можа адкрыта плакаць. Павінен хаваць свой боль у сваім сэрцы.

„Гора наша, гаранька, сьнежныя палі;
„Ведаю, што дзераву так, як мне, баліць.

Чаму баліць? Чаго ж плакаць? Навакол такая

дэля мае даволі часу, каб вырасьці пасьля збору аўса.

Маючы гэта на ўвазе, сарадэлю ўсяваюць тады, як авёс ужо падрасьце больш-менш да 10 см. Тады сарадэлю можна прыбаранаваць, што будзе добра і для аўса, асабліва, калі зямля заскарынілася.

Усяваецца ў авёс таксама й канюшына. Трэба помніць, што не на ўсіх грунтох, на якіх удаецца авёс, удаецца й канюшына. Канюшына найлепш удаецца на ячменных грунтох, дзейных, якія маюць досіць вапны. Усеяная ў авёс канюшына можа ня ўдацца і таму, што авёс мае буйнейшае лісьцьцё, як ячмень, дык і заценьвае канюшыну і заглушае, калі ён буйны і густы. Апрача таго, нярaз авёс сеецца пасьля жыта, а канюшыне гэткі стан не падабаецца. У авёс усяваем канюшыну тады, калі ён ідзе пасьля бульбы.

Хочучы мець добрую канюшыну, ня трэба густа сеяць аўса. Канюшыну ўсяваем або разам з аўсом або пасьля таго, як ён абайдзе. Калі грунт мае асабліві нахіл да заскарыўваньня, дык лепш канюшыну ўсяваць у абайшоўшы авёс, каб магчы яе пасьля прыбаранаваць з пажыткам і для аўса. Тут трэба зьвярнуць найбольшую ўвагу на канюшыну, бо хутчэй яе авёс скрыўдзіць, як яна яго. (*Канец*)

## КАРМЛЕНЬНЕ ЦЯЛЯТ.

Гадаваньне цяляці можна вясьці двама спосабамі: альбо цяля перад адлучэньнем застаецца пару дзён пры карове, альбо яго зараз-жа пасьля нараджэньня адлучаюць ад каровы і пояць рукамі.

Абодва спосабы ўжываюцца ў практыцы, аднак-жа другі спосаб — г. знач. паеньне рукамі лічыцца больш вартым і часьцей ужываным. Пасьля нараджэньня цяляці, адлучаем яго ад каровы і кормім малаком. Першыя 3 дні поім па пяць разоў, далейшыя 2 дні па 4 разы. Пасьля пераходзім да нармальнага паеньня, або тры разы на дзень.

Перш за ўсё малако павінна давацца яшчэ цёплае проста ад каровы, чыста выдаенае і толькі ад маці данага цяляці. А больш-менш пасьля 10-х дзён цяля можа даставаць малако ад іншых, але бязумоўна здаровых, кароў. Пры гэтым малако павінна быць сьвежае, цёплае і чыстае.

Пры гэтым спосабе павінны строга захоўвацца вышэйпералічаныя варункі, пры чым трэба зазначыць, што судзьдзё, ўжыванае для паеньня, павінна быць бязумоўна чыстае, дзеля таго, што паеньне цяляці нячыстым і нясьвежым малаком можа выклікаць хваробу жывата.

Колькасьць малака, якую трэба даваць цяляці, залежыць ад яго жывое вагі. Прынята, што цялушкам даецца адна сёмая, а бычком — адна шостая іхняе жывое вагі.

Дзеля азначэньня жывое вагі цяля трэба важыць праз колькі дзён, пры чым першы раз яно важыцца на трэці дзень пасьля нараджэньня.

Добра, калі паеньне цяляці поўным малаком можа цягнуцца 7—8 тыдняў.

Правільнае кармленьне цяляці прадстаўляецца больш менш гэтак:

У канцы чацьвёртага тыдня пачынаем цяляці даваць крыху дробнага сена і тоўчанага аўса, каб прывучыць яго да гэтых пашаў. У канцы сёмага тыдня цяля добра дае раду з сенам і аўсом. Дык і ступянёва пачынаем аднімаць поўнае малако, па ½ літра ўдзень, замяняючы яго адклушчаным малаком з дадаткам 10 грам. мукі з ляннага семя (больш-менш малая лыжачка).

Касаваньне малака цягнецца 20 дзён. У гэтым часе пачынаем даваць крыху акопных, як кармавыя буракі, або морква, а таксама павялічваем колькасьць сена, тоўчанага аўса і ляннага семя. Калі гадуем бычка, дык поім яго на тыдзень болей.

Гаспадаркі, якія маюць у сваім распараджэньні

---

вясёлая, такая бадзёрая савецкая сучаснасьць. Сяляне беларусы едуць у Сыбір. „Сяляне беларусы носяць боты толькі ў вялікае сьвята“, а звычайная іх вопратка — лапці. Чаго-ж ты плачаш, поэт? Вер у „Заўтра!“ — як верыць Чарот, што панясець яго гэтае „Заўтра“ на „конях сталёвых“. Мусіць трудна верыцца, бо сёньня такая духата, такі туман і халодны сьнег, і... „цякуць у бярозаньні сьлёзкі-серабро“.

А дзе-ж тая Савецкая Беларусь? Дзе-ж тое натхненьне поэта, аб якім так многа пішуць казённыя, прысяжныя крытыкі?

„Не таму так шчыра з вамі гавару,
„Мілая, каханая на палетках рунь.
„Не таму каханую праглынула твань.
„Я п р ы в ы к  х а л о д н ы я  в у с н ы  ц а л а в а ц ь,
„А сягоньня стыну, ледзянее кроў...
„Падаюць слязіначкі чыстым серабром.

Жыцьцё змушаець штодня цалаваць гэтыя халодныя, памёршыя вусны рэвалюцыі і дыктатуры і гэта робіць поэт, ня можа не рабіць гэтага, і ад гэтага абавязку ў яго стынець і ледзянеець кроў і „падаюць сьлязіначкі чыстым серабром“.

Цяжка поэту і ён рвецца, ён малады і ня можа паміруцца з гэтаю сучаснасьцю, з гэтым „шэрым туманам“ і „халоднымі вуснамі“. І вось у іншым сваім вершы, таксама сымболічным, ён кажа нам аб сваіх парывах „на прасторы“, „на прасьцяг“, „у неба“.

„Панясу свае імкненьні
„На прасторы, на прасьцяг,
„На нябесным прыгуменьні
„Хай як зоры шалясьцяць.
„Разам, разам, з ветрам, з сонцам
„Так і хочацца ў прасьцяг
„І пяяць, пяяць бяз конца.
„Песьні новыя жыцьця....

Так і хочацца багаславіць поэта і сказаць яму: ідзі! ідзі хутчэй да сонца, да вольнае творчасьці, ідзі да зораў, аб якіх ты мроіш, і цалуй не халодныя, памёршыя вусны апаршывеўшай, закасьцянеўшай дыктатуры, а гарачыя вусны злучанага беларускага народу, цалуй тыя вочы, з якіх льюцца сьлёзы-серабро.

*В.*

вялікую колькасьць худога малака, маюць дасканальную здаровую пашу, карысную для цяляці.

Замяняючы поўнае малако худым, даём на кожнага $^1/_2$ літра поўнага малака $1^1/_2$ літра малака худога з дадаткам ляннага семя. Худым малаком можна карміць цяля каля 6-х месяцаў з вялікаю карысьцяй. Калі худое малако бяром з коопэрацыйнае малачарні, дык трэба яго перад паеньнем пераварыць, асьцерагаючыся сухотаў.

Павялічваючы ці паменшаючы порцыі поўнага малака, мы павінны рабіць гэта заўсёды паступова, гэта самае датычыць і выпадку, калі ўжываем худое малако. Калі гадаваньне цяляці адбываецца летам, дык яно павінна хадзіць у поле. Цяля зусім не павінна адтрымліваць саломы. Да году цяля павінна адтрымліваць штодня больш-менш 2 кілёгр. аўса і 2 кілеграмы добрага сена.

Калі гадуем цялушку, дык можам, пачаўшы з 6-х месяцаў, карміць ашчадней. Можна даваць менш сухога корму, павялічыць порцыю акопных і сена. Праз год можна пакінуць даваньне аўса, пакідаючы акопныя, сена і салому. Бычкоў на гадоўлю кормім лепей.

Падчас паеньня малаком бычок павінен адтрымліваць колькасьць, адпаведную адной шостай яго жывое вагі. Далей — час паеньня поўным малаком працягваем да 8-х тыдняў. Таксама й аўса яму даём болей, як цялушцы. Радзіцца дадаваць цялятам да корму малую лыжачку шлямованае крэйды адзін раз на дзень.

Калі пакідаем цяля пры карове, дык трэба яму даць ссаць матку прынамсі 6 тыдняў. У першыя 3 дні даём яму ссаць 5 разоў на дзень, у далейшыя 2 дні — 4 разы, пасьля гэтага — тры разы. На чацьвёрты тыдзень трэба пачаць прызвычайваць цяля да сена і аўса. Пасьля адлучэньня ад каровы добра дадаваць худога малака, пры гэтым трэба павялічыць колькасьць аўса і сена. У далейшым паступаем таксама, як пры гадоўлі цяляці ў вышэйназваным прыкладзе.

Застаецца ўжо толькі зазначыць пару слоў аб паеньні:

Паеньне з рукі дае надзвычайныя рэзультаты ў гадоўлі цялят, аднак-жа пры варунку, што выпаўнім пару пунктаў, а ласьне: Паеньне цялят павінна адбывацца рэгулярна заўсёды ў той самы час, малако павінна быць цёплае (каля 30° Ц.), павінна быць чыста выдаенае і сьвежае, судзьдзё, ўжыванае для паеньня, павінна быць утрымлівана ў найбольшай чыстаце. Затым—чыстата, пунктоўнасьць і адпаведная тэмпэратура зьяўляюцца варункамі адтрыманьня добрых рэзультатаў.

## ЦІ ТРЭБА ПЕРАХОДЗІЦЬ НА ХУТАРЫ?

Каб высьвятліць пытаньне, ці трэба пераходзіць на хутары, перш-на-перш трэба заўважыць тое, што галоўнаю прычынай зьбядненьня хлебароба зьяўляецца недахват зямлі. Калі, скажам, бацька разьдзеліць свой 10-дзесяцінны вучастак зямлі паміж пяцьма сваімі сынамі, дык недахват яе будзе відавочны.

У даваенныя часы гаспадар, маючы якіх дзьве дзесяціны зямлі, кідаў гаспадарыць і ехаў шукаць заробкаў у Петраград ці Рыгу. Зямлю-ж сваю аддаваў брату ці суседу за нішто, а калі, часам, не знаходзіўся арэндатар, дык нічога дзіўнага, калі зямля мусіла ляжаць адлогам. Знаю вёску, ў каторай з 15 гаспадароў заставалася толькі 7, рэшта—жылі, дзе хто каторы. Тыя, што засталіся, гаспадары адчувалі сябе, як птушкі ў паветры. Адным словам, зямлі было скольні хочаш.

Што-ж сталася цяпер?

Заробкаў нашаму селяніну па гарадох няма, за гэта мусіць сядзець дома. Прыбытак людзей ідзе хуткім тэмпам. Паводле ўзросту людзей шырыцца недахоп зямлі. Нават заарэндаваць, ці на запашку ўзяць зямлі ня знойдзем. Трэба на сваіх 2-х дзесяцінах працаваць і карміць сям'ю часта ў 10 душ. Вот дык жыцьцё! Іронія лёсу!

З усяго вышэй сказанага відаць, што каб палепшыць дабрабыт хлебароба ў сучасны момэнт, дык нічога другога ня прыдумаеш, апрача культурнага вядзеньня гаспадаркі. Трэба, каб кожная пядзя зямлі выраблялася гэтак, як выробляецца зямля пад буракі, гуркі і капусту. Тады гэтыя дзесяціны дадуць ураджайнасьці ў некалькі разоў, хлебароб адтрымае ў сваім жыцьці палёгкі. Але ці можна правясьці гэткую культуру тады,

# Тры сьмерці.

(Расказ з жыцьця фінскіх рыбакоў).

Пахмурнае, алавянае неба; вее халодны вецер; чайкі лятаюць над морам з крыкам сумным. Хвалі адна за адною набягаюць на бераг, на каторым расьце невялікі хвойны лясок і рыбацкія хаты раскіданы паўсюды. Дзьве парусныя лодкі, гатовыя да адплыву, калыхаюцца на вадзе каля берагу. Пры іх увіхаюцца два маладыя хлапцы ў цыратовай вопратцы і ў рыбацкіх скураных капялюшах. Прыгожая дзяўчына памагае хлапцом у іх рабоце...

У канцы адзін з хлапцоў сказаў: „Ну, ад'яжджаем, Хрыстына, будзь здарова!“ — зьвярнуўся ён да дзяўчыны.

— Едзьце з Богам, Ганс і Оляф! — адказала яна ім сардэчна, — жадаю вам добрае лоўлі і хуткага прыезду да хаты.

— Дзякуй, дзякуй! — кажуць хлапцы, і адвязаўшы свае лодкі ад калоў, адбіваюцца ад берагу... Вецер прэ іх хутка ўперад і бераг пачынае зацягвацца як-бы дымам...

Доўга стаяла дзяўчына на беразе і глядзела на мора, пакуль лодкі ня зьгінулі ёй з вачу. Тады пашла сьцежкаю да хаты. Зрабілася ёй нешта сумна...

Яна ведала, што гэтыя два хлапцы кахалі яе, хоць ёй гэтага не казалі. Абодва былі ёй добрыя, але яе сэрца больш хілілася да Оляфа. Той, хоць і кахаў яе, гатоў быў уступіць, абы толькі яго таварыш Ганс, з каторым ён заўсёды езьдзіў на промыслы, быў шчасьлівы.

Вецер дуў мацней і мацней; відавочна, зьбліжалася бура. Оляф сядзеў у сваёй лодцы і нешта вязаў, Ганс каля кіруна сядзеў задумаўшыся; каля яго ног ляжала стрэльба, каторую ён заўсёды няведама на-

калі зямля раскідана, знаходзіцца ў дваццацёх кусках? Не! Тысячу разоў не!

Трэба каб зямля была ўцалку, тады можна ўзяцца за культурную працу, бо толькі пераход на хутары вызваляець гаспадара з вясковага нявольніцтва і даець магчымасьць праявіць сваю веду. Доказам ёсьць цэлая чарга вёсак у Дзісьненшчыне, як напрыклад вёскі: Ізабеліна, Дворышча і інш., дзе толькі тады стала ўзрастаць зямельная культура, калі вёскі перайшлі на хутары. Нажаль, яшчэ вядзецца трохпольнае гаспадараваньне, але гаспадары ўжо зацікаўлены шматпольлем і здаецца хутка прыступяць да рэалізацыі гэтага дзела.

Якая карысьць ад шматпольля зацікаўленым — радзіцца прачытаць ў № 5 „Бел. Дня“ — „Як трэба загаспадараваць калёніі“.

Дык на пытаньне: Ці трэба пераходзіць на хутары?—адказ будзе гэткі: Каб вызваліцца гаспадару з вясковага нявольніцтва і мець магчымасьць праяўляць сваю веду адносна давядзеньня зямлі да высокай ступені гнойнасьці і ўраджайнасьці, ад чаго залежыць дабрабыт хлебароба, трэба як найхутчэй пераходзіць на хутары.

*Янка Тарыкоў.*

## Аб памідорах.

Памідоры ёсьць расьлінай мала знанай селяніну. Той, хто памідоры садзіў, ведае, якую выгаду і карысьць прыносяць памідоры і памідоры ёсьць неабходная гародніна. Дзеля гэтага трэба ведаць, як памідоры садзіць і гадаваць.

Вясной у месяцы сакавіку або на пачатку красавіка насеньне высяваецца ў звычайныя вазоны, зямля павінна быць пульхная. Вазоны трымаць у хаце пры $18^0$ цяплыні. Калі зыйдуць густа, трэба асьярожна некаторыя выкапаць і перасадзіць. Вазоны з усходамі можна выносіць на двор, калі пагода на гэта пазваляе, трэба аднак помніць што памідор баіцца марозу. У гародзе іх трэба садзіць каля 15 траўня. Садзіць радамі, рад ад раду на 1 арш., штука ад штукі $^3/_4$ аршына.

Зямля ў гародзе пад памідоры павінна быць добра выраблена. Зямля мусіць быць добра ўгноенай, найлепей з восені, бо ад сьвежага гною памідоры растуць буйна ў лісьцё, без вялікай карысьці. Памідоры баяцца сьвежага гною, калі там ёсьць адходы людзкія.

Расаду зараз-жа пасадзіўшы трэба паліць; паліваць трэба датуль, пакуль ня прыймуцца, найлепей паліваць пад вечар, або да ўсходу сонца.

Калі памідоры вырастуць на 2 — 3 вяршкі, іх трэба абабіць. Робіцца гэта так: зямля між радоў рыхлюецца і высадкі абсыпаюцца да лістоў. Цераз пару тыдняў трэба ізноў гэта зрабіць. Далей ня трэба пазваляць, каб памідор рос на шмат сукоў, найболей 2—3, рэшту трэба адрэзваць. Каб сукі памідоравы з ягадамі ня гнуліся, на зямлю ўбіваюцца з аднаго і другога боку раду палкі, да іх прывязваюцца папярэчкі, такіх падпораў робіцца дзьве, адну вышэйшую, другую ніжэйшую, так што памідор мае на што абаперціся. Ягады лічацца сьпелымі, калі пачырванеюць.

Увосень памідоры зрэзваць трэба з націнай. Ягады большыя недасьпеўшыя зьняць трэба і палажыць на вакно на сонца, такім спосабам яны дасьпеюць.

Рэшта ягад вешаецца ў кухні разам з націнай на тыдзень. Пасьля іх трэба зьняць і квасіць так, як агуркі. Памідоры вельмі даходны прадукт. Яго заўсёды можна прадаць. Як прадукт спажыцьця, памідор—гэта вельмі добрая расьліна; яна даець больш карысьці, чымся агуркі.

*Зьдар Зарак.*

---

што браў з сабою. Сягоньня ён быў хмурнейшы, як заўсёды і злосна паглядаў на Оляфа.

Яму ўсё здавалася, што Хрыстына больш Оляфа любіць, ніж яго. Сэрца яму балела, чорная зайздрасьць грызла яго...

— Перашкоднік пракляты! — падумаў ён, глянуўшы на Оляфаву лодку. Той усё нешта вязаў і Гансу здалося, што ён з яго сьмяецца паціху.

— Трыумфуе, пэўны свайго!—падумалася Гансу і раптам нейкі голас у ём пачаў шаптаць яму:

— „Вось тут можна зрабіць, каб яго ня было, ніхто ня бачыць!“ — шаптаў голас, — „Хрыстына тады цябе пакахае!...“

— Гэй, Ганс, давай закідаць сеці! — сказаў Оляф і, не чакаючы адказу, пачаў спушчаць сваю... Ганс сядзеў задумаўшыся і слухаў шэптаў свайго ўнутранага голасу.

— „А сумленьне ня будзе мучыць?“ — запытаўся ён у самога сябе.

— „Хрыстына будзе твая!“ — ізноў шапнуў голас.

Тут Оляф пачаў спушчаць парус, стаячы на лодцы.

— „Ну, хутчэй, калі хочаш мець Хрыстыну!“ — спакушаў голас...

Ганс паволі падняўся, узяў стрэльбу і прыцэліўся да Оляфа, каторы застаўся ўзадзе яго... Стрэл разьлёгся, дым закрыў усё і плёхнула вада... Як дым разыйшоўся, дык ня было нікога ў лодцы Оляфа...

Ганс пачуў сябе вельмі спакойным, узяў вёслы, спусьціў парус і пачаў падплываць да лодкі без гаспадара. Прыцягнуў яе басаком да свае і скочыў туды з сякераю. Прарубаў дно і зноў пераскочыў да свае...

Ад'ехаў шпарка і... аглянуўся: Оляфавай лодкі ўжо ня было...

# Гаспадарчыя парады.

## АДКАЗЫ НА ПЫТАНЬНІ.

**Пытаньне:** 1) Як ляпей садзіць бульбу, раней кладучы гной у ральлю, а пасьля бульбу, ці раней класьці бульбу, а пасьля прыкрываць яе гноем і прыгорваць? Абодва спосабы ў нас ужываюцца; каторы з іх лепшы?

2) Ці гной трэба прыгорваць за некалькі дзён перад саджэньнем бульбы?

3) Як датарноўваць паташовыя і іншыя гнаі пад бульбу?

**Адказ:** 1) Ніводзін з названых спосабаў ня ёсьць добрым, бо бульбы ня трэба „класьць“, а садзіць. Накіданьне гною на ральлю практыкуецца на цяжэйшых грунтох, каб яго надта глыбока ня прыгорваць, бо тады вельмі памалу ён раскладаецца; на лягчэйшых грунтох можа быць прыгараны глыбей. З пытаньня можна рабіць вывад, што йдзе аб тое, ці саджэнец мае быць паложаны на гной, ці на зямлю, на дно баразны, а пасьля гной. Вось-жа трэба гэтыя дзьве працы аддзяліць і пасадзіць бульбу так, каб якнайхутчэй магла прарасьці і расьці, а гной прыгараць так, каб ён найлепш мог быць выкарыстаны і найлягчэй мог разлажыцца. Садзячы бульбу пад плуг, трэба яе ўсаджваць у пухкую зямлю ў палове мягкае выгаранае скібы. Тады бульба ня будзе прыкрыта заглыбока, што палегчыць ёй прарастаньне і абыход, а таму што яна пасаджана ў пухкую зямлю, а ня кіненая на цьвёрдае дно баразны, дык пасьля будзе магчы добра разьвівацца і з лёгкасьцяй саджаць клубкі. А гной зграбаецца на скібу граблямі, каб ня лішне глыбока і роўнамерна прыкрыць яго плугам.

Гной найлепш прыкрываць з восені, а бульбу садзіць па значніку пад капачку альбо матыку.

2) Хочучы прыгараць гной за некалькі дзён перад саджэньнем бульбы, ведама, што пасьля нельга будзе яе садзіць пад плуг, а толькі пад матыку або капачку. Прыгараньне гною на некалькі дзён раней няшмат паможа і не палегчыць яго раскладу.

3) Пад гадаваную на гнаі бульбу аплаціцца даданьне толькі паташовае солі да 200 кілёгр. на 1 га, якая прыкрываецца бараною перад саджэньнем бульбы, або пасьля пасадкі, тады, як яе бaрануем. Гадоўля бульбы бяз гною або без зялёных гнаёў (лубіну, сарадэлі) і поўнае навожаньне штучнымі гнаямі сумліўна, каб аплацілася, па прычыне высокіх цэнаў мінэральных навозаў, асабліва азотных.

## ХВАРОБА ЦЯЛЯТ.

**Пытаньне:** Цяля нарадзілася здаровае і вясёлае, а праз 24 гадзіны ня хоча ссаць, сумнее, пупавіна пухне, як-бы вадою была налітая, і цяля праз тыдзень здохла. Гэты выпадак здарыўся ў мяне і ў маіх суседзяў. Прашу рады.

**Адказ:** Гэта так званая заразная бягунка, якая блізка што заўсёды сьмяротная. Каб яе папярэдзіць, дык трэба за тыдзень да цяленьня утрымліваць вялікую чыстату ў хляве каля цельнае каровы, ў яе стойле, дзеля таго, што хваробу выклікае свайго гатунку мікроб; мікроб гэты заўсёды знаходзіцца ў тоўстых кішках дарослага быдла, а да цела цяляці дабіраецца з маткі і праз пупавіну, дык дзеля гэтага хвост і зад цельнае каровы трэба штодня абмываць 3% рошчынай крэоліны, бяручы 1 лыжачку крэоліны на шклянку пераваранай вады; абмываньне гэткае трэба рабіць цэлы тыдзень і па ацяленьні.

Затым, падчас самога полагу цяля трэба прымаць на вялікую чыстую посьцілку, змочаную ў гэткай самай рошчыне крэоліны. Пупавіну зараз-жа перавязаць цясёмкай або моцным тонкім шнурком, вымачаным у рошчыне крэоліны; пупавіну адрэзаць ножніцамі, таксама чыстымі і вымачанымі ў тэй самай рошчыне. Пасьля адрэзаньня пупавіну пашмараваць ёдам і ў працягу 3-х дзён шмараваць ачышчаным дзёгцем або бэтулёвым алеікам. Гэтым спосабам забясьпечым цялё ад заражэньня. Першыя праявы малодзіва здойваюцца ў асобнае судзьдзё, бо яно можа быць заражана, і пасьля толькі цялё пушчаецца ссаць. У выпадку хваробы цяляці даць 3 лыжкі рыцыны і паіць яго наварам з ячменных круп. Проці гэтае хваробы ёсьць сыраватка, якую з добрым рэзультатам усюды ўжываюць, але яна ўжываецца з парадаю вэтэрынарнага лекара. У хляве трэба зрабіць дэзынфэкцыю.

---

Чайкі лятаючы плакалі, вецер выў, пачыналася бура, але ў душы Ганса быў спакой. Сумленьне яго ня мучыла. Спакойна спусьціў парус і чакаў рыбы.

Зароў вецер, хвалі падніmаліся, як горы і кідалі лодкаю, як лупінаю... Ноч надышла, а бура не перастaвала... Маланкі жахалі адна за адною, але Ганс іх не баяўся... Прыбіла яго ранкам да нейкага малога астраўка. Там ён увязаў лодку да куста, што рос на беразе і чакаў канца шторму. У паўдня сьціхла і ён пайшоў да хаты.

— Нічога не злавіў, бура разьнясла нас з Оляфам, напэўна ён утапіўся,—сьмела казаў Ганс свайму бацьку, вярнуўшыся да хаты. Той сядзеў на калодцы і курыў люльку.

— Шкада будзе Оляфа, калі згіне, з чаго будзе жыць яго маці — то-ж ён адзін карміў яе...

Ганс на гэтыя словы ўздрыгнуўся трохі.

— А Хрыстыны няма: ўночы пярун даў у іхнюю хату і спаліў яе. Усе пагарэлі: Хрыстына, бацькі яе і брат маленькі. Наранку выцягнулі іх абгарэлыя трупы — пайдзі паглядзі, калі хочаш! — казаў стары фін ня бачачы, што Ганса ня было ў хаце...

Як шалёны ляцеў ён па беразе і думка страшная была ў яго галаве:

— Гэта кара за забойства Оляфа... Кара, кара мне!

Раптам стаў.

— Згінуў Оляф з мае рукі за Хрыстыну—хай гіну і я! — падумаў.

Пабёг да лодкі, каторая ўсё яшчэ стаяла ля берагу, скочыў у яе, схапіў стрэльбу, паглядзеў, ці набітая, і наставіў сабе пад бараду... Штырхнуў нагой у замок — стрэл разьлёгся па беразе і Ганс цяжка ўпаў на дно лодкі.

*С. Б.*

## Як сеяць і вырабляць лён.

Найвялікшую карысьць у гаспадарцы дае лён, але ведама толькі тады, калі лён вырасьце добры і гаспадар умела будзе вырабляць яго. Дык аб гэтым ня лішне пагутарыць, а як і аб усялякіх расьлінах, неабходных у землеробскіх гаспадарках.

Перш за ўсё адкажам на пытаньне: як сеяць лён?

Кожнаму гаспадару трэба мець на ўвазе, што дзеля засеву лёну зямля, ці то дзірван, ці ворная, неабходна мусіць быць узорана ня меней як за два тыдні да сяўбы. Сьвежая ральля, па шмат якіх прычынах, пад засеў лёну няпрыгодна, а барджэй тады, калі здарыцца сухое лета. Таксама трэба зазначыць, што сеяць лён трэба ў зямлю вільготную, ў сухую-ж зямлю, распыленую, як попел, сеяць лён небясьпечна на выпадак забойчага дажджу і скора высьніўшайся пагоды, ад чаго зямля можаць заскарупіцца і пашкодзіць на ўсходнасьць яго. Найлепшай парой сяўбы лёну будзе каля палавіны Траўня на стары стыль, калі зямля ужо добра адагрэецца. На узгорках, а таксама і ў зямлю дужа гнойную сеяць лён ня радзіцца. Лён любіць зямлю вільготную. На дужа гнойнай зямлі хоць лён і вырасьце, але зьляжа і паіржавеець, а то і зусім пагніець. Дык само сабой разумеецца, што пасеяўшы лён на дужа гнойнай зямлі, карысьці ня будзем мець.

У другім пытаньні, як вырабляць лён, закранаецца вось што: Калі ў гаспадара вырас добры лён, дык няхай ён стараецца, каб давясьці яго да добрага валакна. Звычайна ў нас па вёсках на Беларусі лён мочаць у саджалках, а то і адразу, як вырвуць, сьцелюць на сланец. У тым і ў другім выпадку лён давясьці, каб было добрае валакно, немагчыма. Каб мець добрае валакно, ня трэба мачыць, ці адразу слаць, а трэба, абчасаўшы са снапа галоўкі, ўдзець снапы ў пярэплаты і заставіць у такім палажэньні аж да лета другога году. Цяпер гаспадар, прыблізна Пятром скошваець над жытам пожню і па ўборцы сена сьцелець лён звычайным парадкам. Трэба зазначыць, што ў гэту пару лён зьлежыцца скора, а найскарэй, калі праходзяць дажджы, дык каб дасьлядзіць калі трэба падымаць яго, трэба тады-сяды браць жменькі лёну на пробу. Высушыўшы і зьмяўшы, лёгка пазнаць ці досыць лёну ляжаць, ці не. Калі кастра дробная і з каслаўкі высыпаецца, гэта знача, што лён дайшоў да мэты.

Каб уявіць сябе, якое будзе валакно ад гэткае вырабкі лёну, трэба зазначыць, што валакно будзе падобнае да шоўку, крыху сіваватае, мягкае і бліскучае. Гэткі лён на кірмашох прадаецца ў паўтара раза даражэй, а найгорш за ім ганяюцца бабы, калі каторай трэба купіць на прадзіва

*Янка Тарыкоў.*

## Сарадэля.

Расьце на самых бедных пескавых глебах, не патрабуе асобнага ўгнаеньня, і таму селянін абавязкова павінен сеяць гэту расьліну. Яна, перш за ўсё, дае добрае сена, якое ня ўступае па спажыўнасьці канюшыне. Жывёла есьць яго добра. Каровы, калі карміць сарадэлай, павялічаюць удоі, а коням яна можа замяніць часткаю авёс. А падругое, сарадэля зьяўляецца надта каштоўнай расьлінай, як зялёнае ўгнаеньне. Праўда, ў яе менш зялёнай масы, чым у лубіне, але ўсё-ж такі яна дае да 1200 пуд. зялёнай масы на 1 дзес. Затое сарадэля скарэй гніе ў зямлі, а, значыць, пасенная культура скарэй зможа скарыстаць яе пажыўную вартасьць. Вартасьць сарадэлі, як угнаеньня, ня горшая за хлеўны гной, а калі гной заараць разам з сарадэлай, то гнаёвая вартасьць яго і тэрмін уплыву бывае даўжэйшы. Апрача таго, угнаеньне сарадэлай таньней за хлеўны гной.

Усе расходы на сарадэлю складаюцца з кошту 3—4 пудоў насеньня і аднаго баранаваньня, што разам дасьць 8—10½ рублёў. Адтрымаць-жа можна 1200 пудоў зялёнае масы, г. зн. па паўпуда на 1 кв. сажань. Калі палічыць такога ліку гною, а таксама і яго вывазку на поле, то будзе сума разоў у 5 большая.

На дзесяціну высяваецца каля трох пудоў.

## Апрацоўка папару.

### Чорны папар.

Чым раней пачаць апрацоўку папару, тым лепей: увесну глеба бывае больш вільготнай і можна выбраць добры час, каб яе заараць. Улетку глеба бывае заўсёды сушэй і апрацоўваць яе цяжэй. Апрацоўку папару трэба пачынаць з восені, зябу, або, яшчэ больш правільна, трэба адразу-ж пасьля жніва ярыны ўзьняць іржышча, а цераз месяц даць гной і заараць поле. Можна гной даваць і ўвесну і адразу заворваць яго. Узоранае з восені поле застаецца зімаваць у скібах. Дагляд за папарам увесну: папар павінен быць чорным, вольным ад зельля на працягу ўсяго лета, да сяўбы азімага. Калі толькі глеба сьсядаецца, зоймецца зельлем, дык яе адразу-ж робяць пухкаю хутканорнікамі і разбаронваюць. Пухкаць трэба вельмі плытка, ня больш двох вяршкоў, каб ня выцягваць наверх завораны гной. Перад канцом мая, або ў пачатку чэрвеня, калі надвор'е не асабліва сухое, папар двояць, гэтак глыбока, як аралі першы раз, або крыху глыбей. Апошні раз араць трэба за тыдні два да сяўбы.

## Як даглядаць карову.

Сяляне кормяць сваіх кароў пераважна сенам, саломай, мякінай і мала даюць моцнага корму—мукі. высевак, макухі або жмакоў.

Сена часта кідаюць на подсьціл; яго карова затоптвае нагамі, і яно дарэмна глуміцца. Каровы ча-

ста стаяць у халодных цёмных хлявох з дрэнным паветрам. Вады часта не даюць і замяняюць яе памыямі.

Каб карова давала шмат малака, трэба перш за ўсё зрабіць ясьлі і цёплы, сьветлы хлеў. Але самае важнае—карову трэба карміць па яе вазе.

У нас, на Беларусі, сярэдняя вага каровы — 15 пудоў, малака-ж яна дае 5 кварт на дзень.

Каб такая карова не спадала ў вазе і не збаўляла малака, ёй трэба даць на дзень 32 ф. сена. Звычайна столькі сена не даюць, а дабаўляюць ці больш моцны корм, як вотрубі ці больш слабы, як салома.

Сяляне Даніі вылічылі, што адзін корм можна замяніць другім. Так, 1 фунт вотрубяў замяняе 3 фунты сена або 6 фунтаў саломы.

Каб лепей было вясьці разьлічэньні пры замене аднаго корму на другі, умовіліся ўсё пераводзіць на моцны корм, лічачы 1 фунт такога корму за 1 кармовую адзінку. Такім чынам, 32 фунты сена складаюць каля 11 кармавых адзінак, бо 1 кармавая адзінка = 3 ф. сена.

Гэтыя 11 кармавых адзінак можна мець з розных кармаў.

### Прадасьцярогі і меры барацьбы з хатнім грыбам.

1. Для пабудовы будынкаў трэба браць сухі матар'ял.
2. Будынкі трэба часта праветраваць, каб ня было вільгаці.
3. Пры рэмонце будынкаў патрэбна зараз-жа спаліць усе часткі драўніны, якія заражаны хатнім грыбам.
4 Драўляны падмурак пад будынак трэба рабіць з сухога матар'ялу, які добра вымазаць дзёгцем.
5. Ніз падрубы трэба засыпаць пяском або жвірам.
6. Не мачыць часта падлогі.

## Куток для мацярок.

ДОКТАР РАВІЧ.

### Што такое натуральнае кармленьне.

Натуральным кармленьнем называем у навуцы кармленьне дзіцяці матчынымі грудзьмі, ў той час, як кармленьне каровячым малаком ды рознымі парашкамі называем штучным кармленьнем.

Ужо самы назоў нам часьцёва выясьняе розьніцу паміж адным і другім кармленьнем і выразна паказвае, каторае з іх лепшае. Матчынае малако — гэта корм, прызначаны дзіцяці прыродаю, а штучнае— толькі замяняе натуральны корм. Прамысловасьць, якая займаецца тым, што вырабляе розныя кармільныя парашкі для дзяцей, зрабіла вялікі поступ, аднакжа ня можа яна зрабіць гэткага корму, які цалком мог-бы замяніць матчынае малако, бо-ж матчын корм, гэта — часьць яе цела, гэта — пераробка крыві, гэта — жывая тканінка, вытвараная жывым жаночым арганізмам. А парашок, будучы нават найакуратней падобным да жаночага малака, заўсёды застанецца штучна вытвараным, няжывым прадуктам.

Аб вышэйшасьці кармленьня грудзьмі за штучнае кармленьне дзіцяці гавораць нам выразна цыфры, якія датычаць сьмяротнасьці дзяцей: з гэтых цыфраў выходзіць, што тых дзяцей, якіх кормяць штучна, памірае дванадцаць разоў столькі, колькі грудных дзяцей! Варта гэта памятаць, бо не адна маці, зьвеахвочаная тым, што ёй ня шэнціць, найчасьцей па прычыне няўмелага кармленьня дзіцяці, няраз спакусіцца, каб спрабаваць гэтых хвалёных парашкоў. Часам гэткая спроба на выгляд вельмі добра дзіцяці паслужыць: папраўіцца яго выгляд, яно робіцца спакайнейшым і маці вельмі рада, што можа дзіця менш карміць—пасьля некатораго часу дзіця лёгкаважыць грудзі, адтрымліваючы праз сыску салодкі, смачна зроблены парашок,—корм, блага выцягваны з грудзей, гіне і дзіця хутка пераходзіць на штучнае кармленьне. Маці думае, што зрабіла вельмі добра, а тымчасам яна дзіця моцна скрыўдзіла. Пры штучным кармленьні шмат трудней ухіліцца ад забурэньняў у кармленьні дзіцяці і пасьля пэўнага часу выступаюць яны штораз то часьцей, прыспорваючы маці ў сто разоў болей клопату, чымся кармленьне грудзьмі і пагражаючы дзіцяці паважнаю небясьпекаю. Калі нават маці і ўдасца шчасьліва ўхіліцца ад гэтых забурэньняў, дык штучна кормленае дзіця куды часьцей занядужвае на ангельскую хваробу і робіцца наагул значна менш адпорным: кожная хвароба выступае ў яго хутчэй і значна цяжэйшы мае прабег, чымся ў дзіцяці ад грудзей.

Маці, якая бачыць, што грудзей яе дзіцяці не хапае і што разьвіцьцё дзіцяці йдзе марудна, павінна абавязкова адтрымаць параду ад лекара, пакуль пачне дзіця дакармляць, таму што неадпаведнае дакармляньне вядзе да перадчаснага адлучаньня ад грудзей: гэтак найнерацыянальней адбіраем у дзіцяці тое, што яму прызначыла прырода.

(„Kultura").

## Аб усім патроху

### В. Ластоўскі ў Менску.

Як піша „Савецкая Беларусь" за 27 мінулага красавіка, ў Менск пераехаў з Коўна адзін з старэйшых беларускіх пісьменьнікаў, рэдактар месячніка „Крывіч" грам. В. Ластоўскі.

Рэдактар-выдавец Ф. УМЯСТОЎСКІ

Выд. Т-ва „Pogoń" Друк. „Рах", вул. Сьв. Ігната 5.